хведар
жычка

# АБРУС




МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

* * *

Ёсць на планеце такая краіна,
дзе звонка струменяць вясной ручаіны,
дзе лета красуе пад клёкат бусліны,
дзе восень гарыць спелым жарам каліны,
а ўзімку лясы прыбіраюцца ў іней.

Ёсць на планеце такая краіна,
дзе з матчыных песень сатканы кілімы,
дзе гулка святкуюць вяселлі, радзіны,
дзе хлопцы-малойцы з паглядам арліным
растуць, кучаравяць пад сонцам чупрыны,
а вусны дзяўчат — саладзей за маліны.

Ёсць на планеце такая краіна,
дзе памяць абуджана звонам Хатыні
і Вечны агонь — трапяткі напамінак —
б'ецца трывожна ў гранітным каміне,
б'ецца, як сэрца чацвёртага сына,
што ў бітве за Шчасце і Волю загінуў...

Ёсць на планеце такая краіна.
Дружнай сям'ёй у імкненні адзіным
жыве ў ёй народ працавіты і чынны,
працай мацуе магутнасць Айчыны,
сяброў хлебам-соллю страчае гасцінна,
а перад ворагам дзверы зачыніць.

Навечна прапісаны я ў той краіне.

## НАРОДНЫ ДОМ

У Празе,
златай Празе,
многа славутых мясцін:
каменных градаў і храмаў,
мадэрных палацаў са шкла і бетону —
аж разбягаюцца вочы.
Ды сэрца вядзе
на Гібернскую вуліцу,7,
у Народны дом,
дзе ў студзені 1912-га
праходзіла VI Усерасійская
канферэнцыя РСДРП.

У Празе,
златай Празе,
стаяла тады зіма,
не такая суровая, як у Расіі,
але ўсё ж зіма
з лёгкім калядным марозікам.
Як некалі ў Шушанскім,
вярнуўшыся з палявання,
Уладзімір Ільіч
абтрусіў на ганку снег з шапкі
і адчыніў дзверы Народнага дома —
не толькі для сябе.

У Празе,
златай Празе,
на Гібернскай вуліцы, 7
не зачыняюцца дзверы Народнага дома —
з усіх кантынентаў прыязджаюць людзі,
каб наведаць музей Уладзіміра Леніна.

У Празе,
златай Празе,
не толькі ў пакоях Народнага дома —
на ўсіх вуліцах і плошчах,
на заводах і ў кватэрах

гучыць голас вялікага Леніна,
які абудзіў прыгнечаных
і пакрыўджаных
і згуртаваў працоўных
на штурм капіталу.

У Празе,
златай Празе,
на Гібернскай вуліцы, 7
ёсць Народны дом,
які стаў Міжнародным домам —
месцам сустрэч
чыстых сэрцам людзей.

## КАСТРЫЧНІК 1917

Як толькі грымнуў залп «Аўроры»,
хіснуўся, трэснуў ночы цень,
ярчэй заззялі ў небе зоры,
вітаючы наступны дзень,
які працоўным нёс надзею
на лепшы лёс і ясны шлях.
Зара світання маладзела,
як пралетарскі алы сцяг.

Як толькі грымнуў залп «Аўроры»,
на ўсіх пяці мацерыках
шырэй рассунула прасторы
народам
Леніна рука.
У грудзі біў шчэ вецер золкі.
Вучыў рабочых правадыр,
як здабываць рукой мазольнай
свабоду,
роўнасць,
шчасце,
мір.

Як толькі грымнуў залп «Аўроры»,
час павярнуў у новы век:
з няволі,
крыўды,
зла
і гора
памкнуў да сонца чалавек,
адчуў,
што вольны ён — як волат,
спіну і плечы развінаў,
эмблему працы —
Серп і Молат
над родным краем уздымаў.



Як толькі грымнуў залп «Аўроры»,
цары,
султаны,
каралі
трасліся за свае кароны
ў іжо ўтрымаць іх не змаглі —
змятаў імперыі з планеты
рэвалюцыйны грозны шквал.
І ў такт народным марам светлым
лунаў
«Інтэрнацыянал».



* * *

«Вечная слава героям!» —
на мармуры словы золатам.

Вечная слава героям! —
зорка з сярпом і молатам.

Вечная слава героям! —
прыйшлі піянеры з кветкамі.

Вечная слава героям! —
жывём мы іх запаветамі.

Вечная слава героям! —
дожджык — як слёзы матчыны.

Вечная слава героям! —
дзядоў і бацькоў нашых спадчына.

* * *

Калі б нарадзіўся я мастаком,
я маляваў бы рукі:
тыя, што ўзводзяць светлы дом,
і тыя, што водзяць па струнах смычком,
каб выкрасаць вабныя гукі;
і тыя, што засяваюць палі,
і тыя, што крышаць каменне,
і тыя, што ў космас вядуць караблі,
і тыя, што шыюць адзенне,
і тыя, што сцяг у атаку нясуць,
і тыя, што пішуць раманы,
і тыя, што ў мірным агні пякуць
надзённы хлеб наш духмяны.

Намаляваў бы мільярды я рук —
белых, жоўтых і чорных.
Намаляваў бы мільярды я рук —
грубых і пяшчотных.

І даў бы рукам тым агністы сцяг —
светлы заўтрашні дзень наш:
— Трымайце, як маці трымае дзіця —
беражна і надзейна.

## З МАЛЕНСТВА...

З маленства гэта ўсё ва мне:
плакат агністы на сцяне,
на ім —
і мора, і зямля,
і вежы стромкія Крамля,
зялёны дах,
чырвоны сцяг,
палёў жаўцеючы прасцяг,
«Аўроры» слаўнай сілуэт
і родны Леніна партрэт.

## ПОМНІК МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Зноў на гары Траецкай,
там, дзе гуляў малым,
Мінск прапісаў навечна
цябе, наш Максім.

Ясені і каштаны
памаладзелі зусім.
Вершы на памяць чытаем
твае, наш Максім.

Вечар зямлю лагодзіць.
Моўчкі ў абшар глядзім:
зорка Венера ўзыходзіць
твая, наш Максім.

Дрэвы шапочуць веццем...
Тчэцца зары кілім...
Дзень залацісты прывецім
з табой, наш Максім.

## МАДОННА

Не ў Парыжы
і не ў Рыме —
у лясной вёсцы Лясані
пад Жлобінам,
на прыгрэтай майскім сонцам прызбе
сядзіць мадонна,
корміць грудзямі дзіця.
Рукі яе — адна пяшчота,
грудзі яе наліты шчодрасцю,
а ў вачах столькі радасці і дабрыні,
што павекі здаюцца празрыстымі.
Сядзіць мадонна,
корміць дзіця,
на прызбе
у вёсцы Лясані
пад Жлобінам.
Любуюся ёй
і шкадую:
чаму я — не Рафаэль.

* * *

На светлы мармур
кладу гвяздзікі —
сваю любоў,
сваю клятву,
сваю ўдзячнасць вам,
мае вызваліцелі,
мае абаронцы.
На светлы мармур
кладу свой сум,
сваю жалобу,
сваю горыч...
На светлы мармур абеліска
кладу свой праклён вайне.

# ГОД

## ВЯСНА

З зімы — як з турмы
ці з цяжкога кашмарнага сну
выйшаў у вясну,
гуляю ў полі
на волі.

## ЛЕТА

Рабінкай цвіло,
хмурынкай плыло,
купалася ў цёплых промнях.
А ўрэшце,
было яно ці не было,
не ведаю ўжо,
бо не помню.

## ВОСЕНЬ

Сонца
і лісце і ўсмешкі залоціць,
карціну раю малюе,
як той фармацэўт,
што зверху салодзіць
горкую ўсярэдзіне пілюлю.

## ЗІМА

Праходзіш
праз ліўні, віры і грамы,
шукаеш чагосьці на свеце,
каб голую праўду зімы
мужна сустрэць
і прывецiць.

## ТВАЕ ДАЛОНІ

Тваe далоні пахнуць крышку ветрам,
што напаўняе верай лёсу ветразь.

Тваe далоні пахнуць крышку морам,
што можа адарыць і радасцю і горам.

Тваe далоні пахнуць крышку небам,
а мо не небам — чорным жытнім хлебам,

тым хлебам, што назвалі мы надзённым,
які цаніць мы забываем сёння.



Ніў калгасных бязмежнасць
з дзяцінства люблю.
Васільковую свежасць
рукамі лаўлю.

Б'ецца хваляй жытнёвай
зялёны працяг,
як узор ручніковы —
на покут жыцця,

як вясельныя бомы —
на смугласць травы,
як натхненне —
на стому
сарві-галавы.

## ПАЧЭСНАЯ ПРАФЕСІЯ

Я — мірны хлебароб,
я — майстар ураджаю,
сваёй зямлі слуга і гаспадар,
як чараўнік,
вясною абуджаю,
у квецень прыбіраю ўвесь абшар.

Раллю затчэ густая рунь пшаніцы,
што будзе прыгажэць
і зелянець,
у трубку пойдзе
і закаласіцца,
адкрасаваўшы,
каласы нальє.

І кожная сцяблінка ў полі гэтым
сагрэта сонцам
і пяшчотай рук.
А як даспее залатое лета,
багаты плён
камбайны сабяруць.

На ўсе сталы,
для кожнай хаты, дома
хлеб выпекуць з пшаніцы залатой.
Мая прафесія хоць простая, вядома,
але я ганаруся ёй.

## СЛАВАЦКАЕ ВІНО

*Лідзіі Вадкерці-Гаворнікавай*

Над Модрай сонца — як той бочкі дно,
з якой мы п'ём іскрыстае віно,
брацкае,
славацкае,
мяккае віно

і зусім не п'янае —
мудрае яно.
— Будзь здароў!
— На здраве!
Дабрыня вачэй.
— То ся зрэдку става...
— Чокнемся яшчэ!

Віно, віно, вінечка...
Нам жыць у дружбе вечна!

Лідзія славачка
раіць па-сваяцку:
— Не паверыш віну —
страціш дружбе цану.
Піць віно без сведак —
толькі гора зведаць:
застанешся адзін,
як былінка ў полі,
ап'янееш,
падурнееш,
будзеш босы, голы.
Трэба верыць віну,
ведаць дружбе цану.
Як падзелішся з сябрамі,
заспяваем песню разам:
«Віно, віно, вінечка.
Нам жыць у дружбе вечна!..»
Гэта песня продкаў нашых —
пастухоў, аратых,
беззямельных,
непісьменных,
ды душой багатых.

Над Модрай сонца — як той бочкі дно,
з якой мы п'ём іскрыстае віно.

Віно, віно, вінечка...
Нам жыць у дружбе вечна!

## ЗАЙМАЕЦЦА НА ДЗЕНЬ

Ледзь-ледзь смятаніцца світанак.
Набраклы ад расы густой,
пад ботам крэкнуў сонны ганак,
і пахне стылаю вадой.

Прыгнуліся ад золі вербы
на ціхай вуліцы сяла.
І ўсе, хто ў дзень наступны верыць,
святла чакаюць
і цяпла.

## БУЛЬБА

На выгляд
яна непрывабная,
чорная,
брудная,
маркая.

І толькі тады,
калі ты яе аблупіш,
вымыеш,
пасоліш,
зварыш у чыгунку
і высыпеш на абрус,—
толькі тады
адчуеш,
колькі яна ўвабрала ў сябе
сонца,
вільгаці,
водару лета
і сокаў зямлі.

## БАГАЦЕЙ АНЦІП

У пастуха Анціпа
не было сваёй каровы,
не было авечак, гусей, курэй,
не было нават сваёй хаты,—
ён пасвіў чужую скаціну,
начаваў пад чужымі стрэхамі...

У пастуха Анціпа
быў свой толькі нож,
якім ён абдзіраў лазовую кару,
каб сплесці сабе лапці,
ды яшчэ рабіў нам свісткі,
выразаў розных звяроў і птушак.

Для нас, малечы,
пастух Анціп
быў самы багаты чалавек на свеце —
колькі радасці
прыносіў ён нам
у сваёй зрэбнай кайстры!

## СЫНЫ

Сніўся старой вешчы сон:
быццам прыбіліся да берага
тры падранкі-качкі,
узяла іх на рукі —
кроў закапала на зямлю...
Гэта знак, што будуць госці,
крэўныя, трое...
няйнакш прыедуць сыны, усе разам...
Якая радасць!
Устае матуля рана,
запальвае ў печы,
гатуе абед,

грэе ваду, мые талеркі:
гэтая, з сіняй аблямоўкай,— Пецева,
гэтая, з кветачкамі,— Мішава,
гэтая, чысценькая,— Грышава.
Ставіць талеркі на стол:
Пецева месца — на куце,
Мішава — каля акна,
Грышава — на ўскраечку,
ён ніколі не даядае, бяжыць на гулі...
Дастае матуля з куфра
квяцістую гарусавую хустку,
накідае яе на плечы,
выходзіць за веснічкі
і глядзіць, і глядзіць
з-пад рукі на дарогу,
ці не пакажуцца з-за павароту сыны:
большанькі, высокі і статны Пеця,
сярэдненькі, плячысты Міша,
меншанькі, шчуплы, вяртлявы Грыша.

Сонца падымаецца ў зеніт,—
чакае матуля.
Сонца апускаецца за лес,—
чакае матуля.
Змяркаецца,—
чакае матуля.
Цямнее,—
чакае матуля
сваіх сыноў:
большанькага Пецю,
які прапаў без вестак,
сярэдненькага Мішу,
што згарэў у самалёце,
меншанькага Грышу,
павешанага фашыстамі...
Як доўга яны ідуць!
Відаць, здарожыліся,
зноў не паспелі на абед...

## ГЭТА БЫЛО...

Гэта было,
хочаш вер ці не вер,—
юнацтва аддаў я вандроўцы.
Чорныя стужкі,
блакітны каўнер
і грудзі ў татуіроўцы...

Пад неба
узносіў дзевяты вал
і ў бездань шпурляў заўзята,
а боцман
(у шторм ён — амаль адмірал)
«падсольваў» густа
загады.

Цвярдзелі бранёй
мазалі на руках,
пад сонцам
дубіўся карак...
...Аб здрадзе дзяўчыны,
якую кахаў,
пачуў я ад чаек-пляткарак.

І тое,
на што ні спякота,
ні шквал,
ні боцман
былі не здольны,
здолеў вось гэты падманны сігнал —
зламаў маю сілу
і волю.

Хацелася
біць усё,
трушчыць,
крышыць,
крычала душа ў адчаі.

мазоліла вочы бязлюдная шыр,
і сэрца
шукала прычалу.

Дражніўся,
знікаў у тумане маяк,
хлусілі прыборы і зоры...
Далёка быў порт
і той шчодры піўняк,
дзе змог бы заліць сваё гора...

А мора шалела,
раўло, нібы звер,
кіпела бруя за кармою...

. . . . . . . . . . .

Гэта было,
хочаш вер ці не вер,
гэта было ўсё
са мною.

## НЕЙТРАЛЬНЫЯ ВОДЫ

Нейтральныя воды...
Нейтральныя воды...
Для ўсіх караблёў тут —
раздолле,
свабода.
Мірны ты госць
ці нахабны пірат,—
ідзі куды хочаш:
наперад,
назад,
не спыніць цябе
аніякі дазор...

Нейтральныя воды —
нічыйны прастор,
нічыйны,
агульны —
не свой,
не чужы...

Крамсаюць па скуры
кілі-нажы.
Тралы і сеці
ўпіваюцца ў цела.
Грымяць на дасвецці
вучэбныя стрэлы.
Паветра свідруюць
без жалю радары...

Ніхто не вартуе,
ды кожны ўладарыць.
Звярыны закон тут
пануе спрадвеку.
Нейтральныя воды
прывыклі да здзекаў,
ні днём
і ні ноччу
спакою не знаюць...

Я ім не зайздрошчу —
я ім спачуваю,
усіхным,
нічыйным,
нейтральным тым водам,

бо маю Айчыну,
любоў
і свабоду!

## АДПАЧЫНАК ЛЯ МОРА

Кладзіся на вымыты сонцам пясок
або на гарачы, напалены, камень,
качайся, варочайся з боку на бок,—
ніхто не гукае,
ніхто не чакае.

Блакітныя хвалі бягуць і бягуць,
б'юцца аб бераг, назад уцякаюць...
З надзеяй гляджу праз густую смугу,—
ніхто не гукае,
ніхто не чакае...

Ніяк не прывыкну, не змружу павек.
Навошта мне, людзі, раскоша такая?
У ёй я нібыта ўжо й не чалавек,—
ніхто не гукае,
ніхто не чакае...

## ПРЫБОЙ

Збіраюць сілу хвалі.
І тая, што завецца Дзевятым валам,
ляціць на бераг
з марай:
так ляснуць у скалу,
каб трэснуў яе каменны чэрап.

А сустракае не скалу —
мяккі рахманы пясок
і адкочваецца назад,
сарамліва апусціўшы вочы,
як расчараваны баксёр,
што не сустрэў дастойнага праціўніка.



А ноччу мора заштарміла,
гуло,
раўло на ўсе лады,
валы каціла,
ў бераг біла
і змыла ўсе твае сляды.

Я гэта знаю,
ды шукаю —
табе ў зарок,
сабе ў папрок,—
мо захаваў халодны камень
ці сыпкі здрадніцкі пясок
калі не след —
хаця б адмету,
адзін штрышок,
якісьці знак
майго нявыпітага лета,
тваіх праклёнаў
ці падзяк.

Няма нічога...
Толькі хвалі
у бераг б'юць за разам раз,
яны прамылі пляж,
зраўнялі
для тых,
што прыйдуць пасля нас.

## СЯБАР ЮНАЦТВА

Сядзім,
п'ём салодкае віно сустрэчы.
Захмялелі ад успамінаў
і глядзім на мінулае
праз зялёнае шкло радасці.

Ах, якія мы тады былі наіўныя,
якія добрыя!
Як моцна сябравалі,
выручалі адзін аднаго!
— А помніш?
— А помніш? — як гарох ад сцяны
адскокваюць ад рэальнасці
словы захаплення.

У запасе ўспамінаў —
яшчэ на цэлы тыдзень,
а віно ўсё выпіта.
На стале стаяць пустыя пляшкі,
і вецер,
як строгі боцман,
свішча ў іх дудкі,
падае каманду:
— Пастроіцца на вячэрнюю паверку!

## ПРАЗ МЕРУ

Хтось праз меру сучасны...
Хтось праз меру адсталы...
Хтось праз меру няшчасны...
Хтось — шчаслівы і ўдалы...

Так прывыклі мы жыць,
не шукае ніхто
больш для шчасця
сярэдзінкі той залатой,
што дзядам і бацькам
была гэтак да густу:
каб не посна, не тлуста,
абы даў бог лусту...

А нам — не абы,
нам выключнае трэба:
хлеб выпечкі свежай
і не нешта — да хлеба,
кажух самы модны,
гальштук — выдатны,
абутак — добротны
і шапку — з андатры,
кватэру — як стайню,
і мэблю — з арэху,
пасаду, і званне,
і славу, і ўцеху...

Усё — каб адменна,
і ўсё — каб не нешта:
браць — поўнай жменяй,
губляць — дык дарэшты!

## БАСЕЙН У КАНЦЛАГЕРЫ ТЭРАЗІН

Вось тут — сартавалі людзей,
тут — іх мылі пад халодным душам,
тут — кармілі бурдой з гнілой бручкі,
тут — катавалі, цкавалі сабакамі,
тут — расстрэльвалі,
тут — вешалі.

А там —
для сына каменданта
быў плавальны басейн з нагрэтай вадой.
Купаўся, плюхаўся адкормлены хлопчык
і не чуў,
як побач, за сцяной,
ягоны тата
распаленымі абцугамі ірваў жывое мяса,
кулаком выбіваў зубы,

таптаў жывот цяжарнае жанчыны,
накідваў пятлю на шыю кволенькага юнака,
пасля мыў рукі,
па асфальтавай дарожцы
паважна ішоў дамоў,
усаджваў на калені сына,
гладзіў рукою яго бялявую галоўку...

Пазней,
у Нюрнберзе
на лаве падсудных
ён сядзеў зусім інакшы:
ціхенькі, бездапаможны, пануры і нікчэмны...
Звяруга!!!

## САМАРОБНЫЯ ЦЫМБАЛЫ

Мне транзістар — не спакуса,
ён грыміць чужыя песні
ды бубніць чужыя танцы
і заўсёды — неўпапад:
я сумую — ён смяецца,
весялюся — ён сумуе,
танцаваць хачу — ён цягне,
як назло, жалобны марш...

Лепш сыграю на цымбалах,
тых, што сам зрабіў калісьці
у бары каля Бярозы
басаногім хлапчуком:
промні сонца нацягнуў я,
нібы залатыя струны,
між рагоў шырокіх, пругкіх
быстраногага лася.

Лось той — лёс мой,
нестрымана
ён бяжыць у даль нямую,
галаву задраўшы горда,
капытамі б'е зямлю.
На спіне яго сяджу я,
зачараваны імкненнем,
летуценнямі спавіты,
сам сабе — гусляр і цар.

## У ВЯЗЫНЦЫ

Прыязджаюць сюды
паэты,
вопытныя і зусім маладыя,—
усе шукаюць тую сцяжынку,
якой ішоў калісьці Янка
з сялянскай хаты ў вялікую паэзію.

Шукаюць,
каб прымераць яе да сябе,
да сваёй творчай біяграфіі,
быццам не ведаюць,
што ніякай сцежкі не было.

Была
зарослая калючым цёрнам
аблога,
якую і прайшоў з горда ўзнятай
галавой
хлопец з Вязынкі.

Таму ён — паэт,
таму — Янка Купала.

## ВЕРНАСЦЬ

Толькі недасведчанаму верхагляду
можа здавацца,
што дрэва не любіць матулі-зямлі:
яно вершалінай імкнецца ў неба,
на крылах лістоты хоча ляцець
услед за ветрам,
рукамі галін абдымае сонца —
не пускае яго падаць за гарызонт.
Але ж дрэва
каранямі моцна трымаецца
за родную глебу,
якая дала яму жыццё.

Здрада, яна заўсёды кідаецца ў вочы,
а вернасць
трэба ўмець заўважыць.

## УСПАМІН

Калісьці мы, зусім шчэ маладыя,
вячэралі на лузе ля ракі.
Хрумсцелі на зубах зялёныя гуркі,
у місках юшка смачна пахла дымам.

Вярба рукамі, кволымі, худымі,
маладзічок трымала за ражкі,
каб не зваліўся — хоць і не цяжкі,
ды хто яго на неба зноў падыме?

Лянота брала пакрысе ў палон,
і не было ў руках тае ўжо сілы,
каб здолець так высока ўскінуць вілы.

Ноч распусціла зорны парасон...
Клубок разваг з плячэй маіх пахілых
каціўся калабком у мяккі сон.

## ЖЫТА, РУЖА І ПАЛЫН

Хмара чорная не знае,
хто ёй — пасынак, хто — сын,
шчодра ў маі палівае
жыта, ружу і палын.

Сонца яснае не знае,
хто там — пасынак, хто — сын,
шчодра песціць, саграваае
жыта, ружу і палын.

І зіма не разбірае,
хто ёй — пасынак, хто — сын,
снежнай коўдрай укрывае
жыта, ружу і палын.

Хто больш родны, хто з іх лепшы,
знаю, можа, я адзін:
жыта корміць,
ружа цешыць,
лечыць гаркатой палын.

* * *

Колькі згубіў малады чалавек,
які, замест таго
каб нырацы у бяздонне вачэй каханай,
сагравацы дыханнем яе шчокі,
піць нектар вуснаў,
майскай месячнай ноччу
з мудрасцю пасівелага старца
абдумваў крокі будучай сваёй кар'еры.

Колькі ж ён згубіў,
гэты сёння знакаміты і багаты чалавек!..

* * *

Даўно я не баюся цемнаты,
магу ісці парою беспрасветнай
адзін праз грэблю сцежкай
ледзь прыкметнай,
на могілкі і ў дзікі лес густы.

Баюся чалавечай глухаты
да радасці і да бяды суседа,
баюся і ашчады ненаеднай
і паказной няшчырай дабраты.

Вядома ўсім, што прывыкаюць вочы
да самай непрагляднай цемры ночы,
і вушы, згодна прымаўкі старой,
зжываюцца з ліслівасцю, хлуснёй.

Але душа ніколі не захоча
змірыцца з пустатой і чарнатой.

* * *

Рэчы вялікіх людзей —
гадзіннікі і алоўкі,
кавенькі і насоўкі,
браслеты і пярсцёнкі,
нажнічкі і расчоскі,
падцяжкі і дзягі,
стрэльбы і біклагі,
піпкі і муштукі
і розныя там кветкі
ляжаць пад шклом у музеях пустых
не сведкамі таленту іх,
а глухім напамінкам аб тым,
што іх гаспадары

былі звычайнымі людзьмі:
хадзілі па зямлі,
елі,
пілі,
труціліся цыгарэтамі,
цкаваліся газетамі
аж да тае пары,
пакуль не сталі
бюстамі і партрэтамі.

## ПАЛЯВАЯ ДАРОГА

Як на музейную рэдкасць
гляджу на палявую дарогу —
з вузкай каляінай ад калёс,
са слядамі конскіх капытоў...

Нарэшце я знайшоў той куток,
куды не дайшла яшчэ цывілізацыя!

Ды раптам
пачуў ззаду трэск матора,
азірнуўся:
матацыкл з каляскай
і двое ў шлемах —
едуць у грыбы,
бязлітасна мнучы жыта.
Двое ў шлемах:
ён і яна,
задаволеныя,
з усмешкамі дзікуноў.

# ЗЯЛЁНЫ ВЕЧАР

## Песня

Плыве над Сожам вечар зялёны,
хваля ў бераг б'е.
Блукаю між таполяў і клёнаў.
Сумна без цябе.

Песня вясны — светлыя сны.
Коцяцца воды, ззяюць агні.
Цветам густым пеніцца сад.
Сніцца мне, сніцца родны пагляд.

Гавораць людзі: сэрца — не камень.
Адкажы вясне:
у парк цяністы зноў на спатканне
ты пакліч мяне.

Песня вясны — светлыя сны.
Коцяцца воды, ззяюць агні.
Цветам густым пеніцца сад.
Сніцца мне, сніцца родны пагляд.

Плыве над Сожам вечар зялёны.
Хваля ў бераг б'е.
Хаця б прынёс мне вецер залётны
вестку ад цябе.

Песня вясны — светлыя сны.
Коцяцца воды, ззяюць агні.
Цветам густым пеніцца сад.
Сніцца мне, сніцца родны пагляд.

* * *

Як іголку ў стозе сена,
шукаю цябе ў мільённым горадзе.

Столькі тут дарог і сцежак,—
каб жа ж ведаў я,
па якой ты сёння пойдзеш...
Столькі тут спакус і спакуснікаў,—
каб жа ж мог я засцерагчы цябе ад іх...

Як іголку ў стозе сена,
шукаю цябе ў мільённым горадзе.

* * *

Калі яшчэ паўторыцца нам гэткі дзень —
з прасветленым наскрозь прыветным гаем,
з апалым зорным лісцем пад нагамі,
з апенькамі, што абляпілі пень?
Калі яшчэ паўторыцца нам гэткі дзень?..

Калі яшчэ паўторыцца нам гэткі дзень —
з высокім сонцам і глыбокім небам,
з узнёслай марай і надзённым хлебам,
з надзеяй праведнай, як ранішні прамень?
Калі яшчэ паўторыцца нам гэткі дзень?..

Калі яшчэ паўторыцца нам гэткі дзень —
з арбітным лётам музыкі няўлоўнай,
з пяшчотай сэрца і цяплом далоняў,
з цвярозасцю, як ледзяны струмень?
Калі яшчэ паўторыцца нам гэткі дзень?..

Калі яшчэ паўторыцца нам гэткі дзень —
праз год ці два? А можа, і ніколі
не прыйдзе ён да нас як шчодры дар.
Бач, вецер сабірае зграю хмар,
каб сыпануць даждждом на луг і поле...
А там насунецца панурай ночы цень...

Навошта ж мы ўпусцілі гэткі дзень?
Гэткі дзень!

## ДОБАСНА І ДНЯПРО

Не спявай, салоўка, за парканам,
шчасця ўсім так шчодра не прароч.
...Як нявесту, вэлюмам-туманам
Добасну прыкрыла сваццяя-ноч;
абняла рукой халоднай, чорнай
і вядзе на шлюбную пасцель...

Спяць дружкі-вятры
пад касагорам,
хмеліць ім галовы
здраднік-хмель.
Што дружкам!..
Вяселле адгулялі,
прапілі сяброўку,
прадалі,
слёзы выцiралі, суцяшалі
і касу на плёсах расплялі.

А жаніх — сівы Дняпро-Славуціч
пачынае рэўнасцю гарэць:
б'ецца ў бераг,
падмывае кручы,
каб хутчэй
каханую сустрэць.

...Я стаю,
гляджу на тое дзіва:
пад аховай прыбярэжных стром
усю ноч
пакорна,
сарамліва
Добасна цалуецца з Дняпром.

* * *

Ельнік цёмны і сыры.
Непрыветна ў гушчары:
ні груздоў,
ні сыраежак...
Лабірынт падманных сцежак...
З кошыкам парожнім
заблудзіцца можна.
Арыядна на дарогу
мне клубочка не дала.
Не дала — і дзякуй богу,
бо сама са мной пайшла.
Ельнікам блукаем,
выйсця не шукаем.
Лабірынт нам — не завада,
мы яму бясконца рады:
век бы ў лесе нам блукаць
гэтак — у руцэ рука,
век бы гэтак згодна,
хоць і старамодна.
Век бы так пра шчасце марыць,
век...
Ды што гэта за чары:
расступіўся, знік гушчар,
сонца свеціць проста ў твар,
свеціць ды не грэе,
мабыць, вечарэе?..

Чуем шоргат шын машын —
выйшлі проста да шашы,
да шашы рухавай,
людная, нецікавай...
Не шанцуе, як на здзек,—
быў кароткі шчасця век...

## ТРЫЯЛЕТЫ

Як матчыным рукам і хлебу,
я веру партыі сваёй;
і чыстаму малюся небу,
як матчыным рукам і хлебу.

Адчуўшы пільную патрэбу
быць сэрцам з роднаю зямлёй,
як матчыным рукам і хлебу,
я веру партыі сваёй.

*

Я не хаваю волі сэрца
за частакол пустых размоў.
Ад ворагаў і ад сяброў
я не хаваю волі сэрца.

Пры частым ужыванні слоў
няцяжка іх значэнне сцерці.
Я не хаваю волі сэрца
за частакол пустых размоў.

*

Вясною вецер уздыхнуў,
набухлі сокамі пупышкі,
лес абуджаецца ад сну,—
вясною вецер уздыхнуў.

Залезла сонца на сасну,
зялёныя фіксуе ўспышкі.
Вясною вецер уздыхнуў,
набухлі сокамі пупышкі.

*

Праменьчык сонца зіхатлівы
упаў на кудзеркі твае.
Які ж ён светлы і шчаслівы —
праменьчык сонца зіхатлівы!

Любуюся я гэтым дзівам,
спакою рэўнасць не дае,—
праменьчык сонца зіхатлівы
цалуе кудзеркі твае.

*

Крывёй зялёнаю сплывае
пад востраю касой трава;
краса жывая лугавая
крывёй зялёнаю сплывае.

Я смерці гімнаў не спяваю,
ды ёсць тут крышку характва:
крывёй зялёнаю сплывае
пад востраю касой трава.

*

На край ліста паўзе слімак,
у космас мкне ракета.
Куды ні кліч яго, аднак
на край ліста паўзе слімак.

Бо кожны дзейнічае так,
якая ў каго мэта:
на край ліста паўзе слімак,
у космас мкне ракета.

*

Такая сонечная восень!
Такі на яблыкі ўраджай!
Над галавой — шкляная просінь.
Такая сонечная восень!

Хоць стала явай з летам ростань,
ды радасць льецца цераз край:
такая сонечная восень!
Такі на яблыкі ўраджай!

*

Размыў дажджамі лістапад
кастрычніцкую пазалоту.
Стаў невыразны далягляд —
размыў дажджамі лістапад.

І толькі светлы твой пагляд
прагоніць з сэрца прэч сумоту.
Размыў дажджамі лістапад
кастрычніцкую пазалоту.

* * *

Пакладзі галаву мне на грудзі,
радасць пі, нібы сонца з карца.
Што нам будзе?
Нічога не будзе!
Без пачатку няма і канца.

Не лiняе бясконцае неба.
Не спыняецца бег вечных рэк.
Абяцанкаў ніякіх не трэба —
песня сэрцы яднае навек.

Адцвіла і засохла мятліца,
ды вярнуцца сюды зноў вясне.
На цябе я не ўмею маліцца,
не маліся і ты на мяне.

Нам у рай не адчыняцца дзверы,
самі ў пекла не пойдзем цяпер.
Я не веру ў каханне без веры,
ты ў давер без кахання не вер.

Адгані прэч трывогі, сумненні,
радасць пі, нібы сонца з карца.
Мы не помнім пачатку здзяйснення
і не хочам прадбачыць канца.

## ВЕЧНЫ МУЗЫКА

Вецер — не свавольны падлетак,
якім яго ўяўлялі паэты старажытнай Грэцыі,
і не лысы зайздроснік,
якім яго малявалі мастакі эпохі Адраджэння.

Вецер — гэта віртуозны музыка,
які іграе на многіх інструментах:
на скрыпцы сонечных промняў,
на гуслях лесу,
на свірэлі заводскіх камінoў,
на трэмбіце дарог,
на цымбалах мастоў,
на фагоце высакавольтных ліній,
на кларнеце ручая,
на арфе дажджу,
на бубне напятага неба.
Іграе
бясконцую сваю сімфонію
жыцця.

* * *

Што дазволена багам,
забаронена нам, грэшным...

Промням — сонечным рукам —
падстаўляеш грудзі, плечы.
Я аддаў бы паўжыцця,
захлынуўся б мо ад шчасця,
калі б змог на міг хаця
вуснамі да іх прыпасці...

Што дазволена багам,
Забаронена нам, грэшным...

* * *

Каб прысніўся добры сон,
лёг на свежым сене.
Пахне маладой расой,
пахне спелым кменам.

Хоць да восені яшчэ
быццам і далёка,
хто ад старасці ўцячэ?
Хто ўцячэ ад лёсу?

Ці пасціся,
ці грашы,
будзь самім ці намам,
флірт круці,
раман пішы —
скончыш тым жа самым...

Як адзначыў мудры грэк,
чалавек смяротны —
і ў каго даўжэйшы век,
і ў каго — кароткі.

...Кмен даспее да зімы,
век ягоны — лета...
Як шкада, што часта мы
забываем гэта.

## ПАДАЕ ЗНІЧКА

Падае znічка з пустэчы начной,
падае знічка.
Звоніць крынічка ў дрымоце лясной,
звоніць крынічка.

Падае знічка на вусны твае,
падае знічка.
Нібы сунічка, на іх растае,
нібы сунічка.

* * *

Гэта ж цудоўна — быць нескупым,
дзяліцца з сябрамі са шчодрай далоні
нават тады,
калі ў куфры тваім
ляжаць не рублі — мільёны.

Гэта ж цудоўна — быць маладым
целам
і сэрцам-душою
нават тады,
калі вечнасці дым
ляжа на скроні расою.



Восень мне зноўку напомніць:
час незваротна цячэ;
шабляй халоднага промня
жоўтае лісце ссячэ;

ветрам задзірыста скіне
вобад лазовы пад стог;
церпкай лясной арабінай
густа начыніць пірог.



Дай грыбоў мне,
дай арэхаў,
песню дай, асенні гай!
Жаўталессе сумным рэхам
адгукаецца:
— Бывай!..

Развітанне назаўсёды?
Ці не рана, беразняк?!.
Я ж табе сваіх рапсодый
не аддам вось так за так.

Не засохла шчэ ляшчына,
не замёрз ручэй — цячэ.
...Дзесь жыве адна жанчына
з сумам ласкавых вачэй.

Як ішоў я ў золь сінечы
без вятрыла і стырна,
не «бывай!», а «да сустрэчы!»
мне прамовіла яна.

## КАНЕЦ ВОСЕНІ

Згарэла датла
залатая казка восені,
апаў на дол
яе шэры попел,
яго растварылі дажджы,
і глеба ўвабрала ў сябе гэты раствор.

А дым
хацеў узняцца да неба,
стаць воблакам,
але не здужаў
і зноў апусціўся,
поўзаў па лагчынах туманам,
пакуль не з'елі яго замаразкі.

## ЗІМОВЫЯ КВЕТКІ

Сярод зімы
я раптам апынуўся
на квяцістым лузе,
дзе буйна цвілі
агністыя герані,
ганарыстыя дзьмухаўцы,
крыклівыя смолкі
і сарамлівыя незабудкі.
Гэта мне насустрач
ішоў маляр,
і яго фартух,
як ліпеньскі луг,
зіхацеў жывымі краскамі.

## БЕЛЬ

Белы поплаў, белы ўзгорак, белы лес.
Крутарогі маладзік на ліпу ўзлез,

на галінцы завушніцаю павіс,
пазірае, нібы скочыць хоча ўніз.

Белы світэр, белы ў інею каўнер.
Дзе ж ты, любая, знаходзішся цяпер?

Без цябе ў мяне на сэрцы — белы сум,
не магу я адагнаць трывожных дум.

Хто параіць, хто падкажа сёння мне,
як знайсці цябе ў такой вось белізне?

## СНЕЖНАЯ БАЛАДА

Звоняць, звоняць, звоняць, звоняць,
звоняць бомы пад дугой.
Наўскапыт нясуцца коні
па дарозе палявой.

Белы, белы, белы, белы,
белы свет, калядны снег...
Каруселім ля аселіц,
нібыта ў чароўным сне.

Ззяюць, ззяюць, ззяюць, ззяюць,
ззяюць зоркі ў вышыні
і, халодныя, не знаюць,
што такое — шчасця міг.

Смейся, смейся, смейся, смейся,
смейся — долі не суроч!
Пахудзелы жоўты месяц,
як сабака, скача ўзбоч.

Дзе мы, дзе мы, дзе мы, дзе мы,
дзе мы вырвемся з кальца?
І дарога — як надзея,
і надзея — без канца.

Дзякуй, дзякуй, дзякуй, дзякуй,
дзякуй, любая, за сон.
Перасталі цуглі звякаць,
сэрцы б'юцца ў унісон.

Словы, словы, словы, словы,
словы — што? Чытай пагляд!
...На сцяне — пейзаж зімовы,
за сцяной — у цвеце сад.

Лісце, лісце, лісце, лісце,
лісце ліпне да акна...
Рукі дрогкія спляліся,
вусны палкія зліліся.
Май.
Вясна.

* * *

Не чакай спагады,
не чакай падмогі,
не чакай загаду,
не чакай трывогі,
не чакай нагоды
і больш зручнага выпадку, —
зараз жа
ўпадзі на калені
перад матуляй-зямлёй
і скажы ёй «дзякуй!»
за дараванае табе жыццё.

Не чакай спагады,
не чакай падмогі,
не чакай загаду,
не чакай трывогі,
не чакай нагоды
і больш зручнага выпадку,—
зараз жа
захіні сваім целам
ад бяды
матулю-Зямлю!

* * *

У майстэрні мастака
на цюбіках чытаю назвы фарбаў:
сажа чорная,
чорная нейтральная,
крап-лак,
кінавар,
бялілы цынкавыя,
бялілы свінцовыя,
жоўтая лімонная,
охра жоўтая,
охра аранжавая,
зялёна-смарагдавая,
цэруліум,
кобальт сіні,
ультрамарын,
блакіт берлінскі...
Навошта столькі колераў і адценняў?

Змагла ж прырода
стварыць свой цуд — вясёлку,
і на ўсё гэта сямі колераў хапіла!

## ПРЫЙДУ Я ДА ЦЯБЕ...

Прыйду я да цябе адтуль
кропляй майскага дажджу,
спачатку павісну на вейцы,
а затым з куточка вока
пакачуся па шчацэ слязой,—
гэта не страшна.

Прыйду я да цябе адтуль
пышным бутонам ружы,
буду табе бясконца ўсміхацца,
цягнуцца да вуснаў пялёсткамі,—
гэта не страшна.

Прыйду я да цябе адтуль
шэптам вішнёвай лістоты,
у ім ты пачуеш чаканыя словы,
якіх не паспеў я сказаць табе тут,
пачуеш маю тугу, мой боль,—
гэта не страшна.

Калі ж не адчую спагады тваёй,
прылячу я да цябе адтуль
імклівай стралою маланкі,
праб'ю наскрозь твае халоднае сэрца,
спапялю тваё кволае цела,—
гэтага бойся!

* * *

Твой сум
плыве мне ў сон
туманам золкім,
маркоціць мозг,
у жылах
студзіць кроў,

і тушыць
мрой маіх высокіх
зоркі,

і аддаляе
галасы сяброў...

А мне хацелася б
прысніць цябе
з усмешкай
на вуснах,
нецалованых яшчэ,
прысніць цябе такой,
якой калісь
на ўзмежку
нырнуў навек я
ў глыбіню вачэй.

* * *

Рыхтуй мне, лёс, і боль, і гнеў,
і незлічоныя турботы,
каб я пад старасць не здзічэў
ад славы, тлушчу і ляноты.

Рыхтуй мне, лёс, тугу дарог,
спякоту, холад, голад, смагу,
каб я да дзён апошніх мог
цаніць і посах і біклагу.

Рыхтуй мне, лёс, і пуд, і жах,
і боль па незваротных стратах,
каб прад нашчадкамі ў вяках
не адчуваў ніякавата.

Рыхтуй мне, лёс, грабёж, разбой,
паклёп, знявагу, пакаранні,
каб часам не панёс з сабой
упічышчаў і наракнняў.

Рыхтуй мне, лёс, апошні ўдар,
бязлітасны і бессардэчны,
на грудзі — усёй зямлі цяжар
і не часова ўжо, навечна.

## ЗЛАЧЫН

Калі ў сялянскай хаце
дагарала лучына дзяцінства,
не давала мне спакою
вечная прага пазнання.
Якраз майскі пярун
разбіў усе засовы
і адчыніў браму ў свет.
Не пускала толькі матчына пяшчота,
да якой я прывык
і якой цяпер саромеўся...
І аднойчы на змярканні
вось тут,
пад гэтай дзікай грушай,
я забіў яе —
гэтую патрыярхальную звычку
да матчынай пяшчоты,
сказаўшы маме:
«Еду!
І нічым ты ўжо мяне не ўтрымаеш!»
Забіў звычку.
Забіў пяшчоту.
Забіў матуліны мары.

І цяпер,
як забойца,
часта вяртаюся на месца злачыну.

# АБРУС

Лірычны дзённік

Наш чытач не любіць «белых» вершаў,—
рыфму дай, ды гучную, як звон.
І класічным вершам я не першы
праслаўляю веліч новых дзён.

Выспела ў душы маёй патрэба —
расказаць нашчадкам маладым,
як вясной ля Брэста пахне хлебам
свежае раллі блакітны дым;

як улетку лён цвіце ля Крупак
і цяжэюць ад пладоў сады;
як народ наш працай дужнай, рупнай
уздымае вёскі, гарады.

Буду я складаць не толькі оды
пра сваю адданасць і любоў,—
расказаць яшчэ хачу народу
пра свае трывогі і свой боль,—

не з намерам некага расчуліць,
проста ёсць надоба без маны
думкай падзяліцца, як з матуляй
клопатамі дзеляцца сыны.

Гаварыць мне хочацца адкрыта
пра людскую радасць і бяду.
Нездарма ж у край наш працавіты
павучыцца з-за мяжы ідуць.

І з-пад Брэста, і з-пад тых жа Крупак
хлопцы ў космас водзяць караблі...
Слаўся ж вечна, працавітасць, рупнасць!
Слаўся мір і дружба на Зямлі!

*

Колькі помню лістападаў, маяў,
слаўных дат, чырвоных гадавін,—
сцяг агністы веру паднімае,
адкрывае далі пуцявін.
Ён дае нам сілу і адвагу,
прагу да жыцця і да святла.
Нашу годнасць разам з гэтым сцягам
партыя над светам узняла.

*

Ленін — сцяг, паходня, гонар веку,
новай эры ясная зара.
Даражэй няма нам чалавека,
лепшага няма правадыра.
Ленінскія словы-запаветы
заклікам лунаюць над зямлёй.
Партбілеты з родным сілуэтам
ля грудзей — надзейнаю бранёй
ад мяшчанскіх стрэл, паклёпных джалаў,
ад двурушша, здраднае кляцьбы,—
ад таго, што так перашкаджае
чалавеку Чалавекам быць.

*

Калі ты сваю Радзіму любіш,
аддаеш ёй плён і дум і спраў,
ты ў жыцці ніколі не забудзеш,
хто цябе люляў і ўзгадаваў,
хто вучыў араць і сеяць жыта,

па зямлі хадзіць гаспадаром,
хто цябе выводзіў на арбіту,
будаваў для ўзлёту касмадром.

*

Светлы ранак расхінуў фіранкі,—
сонца заглядае ў кожны дом,
залаціць фасады Серабранкі,
серабрыць Чыжоўскі вадаём.

І, нібыта з траў зялёных чапля,
выйшаў са смугі пад'ёмны кран,
узмахнуў стралой — і дзень пачаўся,
працавіты, творчы дзень мінчан.

*

Маладосці кожная сустрэча,
кожная сцяжынка, кожны крок
засталіся ў памяці навечна,
як урок ці спознены папрок.

*

Ад спаткання, вернасці, кахання,
ад прыходу кожнае вясны
мы чагосьці большага чакаем,
чым на самай справе ёсць яны.

Нам бы — толькі ружы і салоўкі,
нам бы — ручайкоў вясёлых звонь,
нам бы — любых вуснаў мёд салодкі,
шчодрасць сэрца і душы агонь.

А жыццё, яно не дужа песціць,
па крутых сцяжынках нас вядзе.
І не прагла б сэрца гэтак песняў,
калі б іх спявалі кожны дзень.

*

Запрашаюць родныя мясціны,
спадчына дзядоў, зямля бацькоў:
«Прыязджай! З плячэй турботы скінеш,
адпачнеш ад сходаў і званкоў».

Мне ў паход збірацца — не цурацца:
кайстру на плячо — і ў добры пуць!
Языку дарогі не пытацца —
сэрца і душа туды вядуць.

*

Зберажы мяне, суровы лёс мой,
ад людзей разбэшчаных і злых,
зберажы яшчэ мяне ад лёстак,
ад пахвал няшчырых, паказных.
Дай мне, лёс, сяброў надзейных,
верных,
дай мне спадарожнікаў такіх,
каб я з імі мог ісці наперад
па раўнінах і гарах крутых.
Дай мне, лёс, такую прагу сэрца
і такі пякучы неспакой,
каб мне часу не было памерці,
ірвучыся ў несціханы бой.

*

За акном вагона — дзень вясенні,
промні, цені і зялёны тлум.
Маладым зіхценнем летуценні
адганяюць сум старэчых дум.

Верыцца: як толькі перарвецца
неўгамонных колаў перастук,—
зараз жа зальецца песняй вечнай
пад блакітным купалам жаўрук.

Колькі год мне —
пяцьдзесят ці дваццаць?
Паспрыяй, староначка мая,
каб табой здзіўляцца, захапляцца
па-юнацку мог шчэ доўга я!

*

Адцвілі блакітныя пралескі,
зацвітае белы кураслеп.
Цеплыню праменіць край палескі,
нібы з печы выцягнуты хлеб.

*

Галасісты ў гаспадыні певень,—
дзякуй, да святла шчэ разбудзіў.
Каб не ён, праспаў бы я, напэўна,
мо мільёны з'яў, праяў і дзіў.
Як даўно я не ўставаў на золку,
не збіваў з травы расінак шкла
і не бачыў, як не хочуць зоркі
паміраць пад стрэламі святла!..
Дзесьці ў садзе птушка заспявала,
я стаю, гадаю: дрозд ці шпак?
Рэдка тут бываю, забываю
пах жывіцы і цыбулі смак.
Прахалода вісне каля броду,
і ніхто шчэ бродам не брыдзе...
На кароткіх хвалях мне з усходу
шле радыёграмы новы дзень.

*

Прывітанне залатому ранку!
Прывітанне сонечнаму дню!
Любая, табе я на марзянку
пераклаў лістоты лапатню.

Расшыфруеш — страх свой пераступіш,
станеш чараўніцай з чараўніц,
для якіх на свеце ўсё даступна
і няма ніякіх таямніц.

*

Успаміны — як марскія міны:
плаваюць затоена між хваль,
патрывожыш — страшны выбух грымне,
напалам расколе блізь і даль.
Злева — тое, што было з табою,
справа — тое, з чым пайшлі сябры.
Ты ж — мяжой між радасцю і болем,
як між днём і ноччу — бліск зары.

*

Маладымі час мы падганялі:
вось бы скончыць школу ды хутчэй
пашпарт атрымаць і — за штурвалы,
да варштатаў, доменных пячэй.

А цяпер бы рады замарудзіць
спелых дзён імклівую хаду,
каб шчадрэй, спакойней ліўся ў грудзі
пах укропу і пшанічны дух.

*

Выступае ветэран у клубе
з успамінам пра далёкі бой,
і дрыжаць ад хвалявання губы,
і шчака зарошана слязой.

Шмат гадоў з тае пары мінула,
шмат бяды-жуды сплыло вадой,
а яму ўсё чуецца, як кулі
свішчуць над русявай галавой;

а яму ўсё бачыцца: за рэчкай
харкае агнём варожы дот
і пад сонцам — гэтак недарэчна! —
падаюць сябры на мокры лёд.

*

Незагойнай ранай будзе вечна
памяць пра забітых на франтах;
вывяраем ёй мы чалавечнасць,
вымяраем пройдзены свой шлях.

Абеліскі на магілах брацкіх
сталі нам святыняю святой:
мы да іх прыходзім і схіляцца,
і ўздымацца сэрцам і душой.

*

У вайну сапёры мост пантонны
вось на гэтым месцы навялі.
Танкі, самаходкі, пяцітонкі
па тым мосце на прарыў ішлі.

А цяпер тут зарасла дарога.
Закапаўся носам у пясок
да калка прывязаны вяроўкай
аднамесны доўблены чаўнок.
У чаўнок я сеў — ён загайдаўся,
па вадзе разбегліся кругі...
І пантонны мост мне прыгадаўся,
што злучыў навекі берагі:
бераг правы, дзе шапочуць травы,
з левым, дзе ў садах шчыруе спас.

Нездарма прыгожым словам «Слава»
землякі назвалі свой калгас —
слава той ваеннай пераправе
і байцам чырваназорым слава,
што з палону вызвалілі нас!

*

Па-над намі ціха праплывае
воблака
і ў промнях растае.
Пахне сонцам мята палявая.
Пахнуць мятай валасы твае.

Хмеліць голаў прэлы дух падбелу.
Ліст асіны ззяе ці герань?
Дзень гарыць рабінай недаспелай.
Вусны твае спеласцю гарадь.

Верасень-маляр залоціць шчодра
кудзеркі бярозавых прысад.
Дыхае прырода ўся пяшчотай.
Сэрца рве пяшчотны твой пагляд.

*

«Каб ніхто не змог цябе сурочыць,
прысмуціць да брыдкай і старой,
апранай навываратг сарочку,
спаць кладзіся да сцяны спіной»,—
павучала так мяне матуля,
калі быў прыгожы, малады,
нібы й праўда сэрца яе чула,
што змарную юныя гады;
што зраднюся я з кійком бадзягі,
зоркапад і вецер палюблю,
наталіць дапытлівасці смагу
не змагу і змераўшы Зямлю.

...Пасівеў, а ўсё яшчэ ў дарогу
клічуць горны і надзей і мар.
Не баюся я цяпер нічога:
ні сурокаў, ні прысмут, ні чар.

Спаць кладуся, дзе засцігне ночка,
тварам да сцяны ці да агню

і гляджу на потную сарочку,
як на непатрэбную браню.

Падсцялю пад бок сабе саломкі,
што мякчэй за тысячу пярын...
Падары мне, ночка, сон салодкі,
залацісты ранак падары!

*

Вадаспад — не выкрутас прыроды,
ён — вады такі ж нармальны стан,
як і пара, іней, горы лёду,
снег, раса ці ранішні туман.

Толькі тут — да ісціны імкненне,
хоць і ўніз, але няспынны рух,
у падзенні, самапрыніжэнні —
сіла волі і бунтарскі дух.

*

За сталом сядзім з табой гадзіну,
курым цыгарэты,
п’ём віно.
Пахам сырадою вечар сіні
цэдзіцца праз жоўтае акно.

Упрыскокі кружацца ўспаміны,
як даўным-даўно ў нямым кіно:
мітусяцца цені,
а карціны,
той, адной, рэальнай, не відно,—
чым жылі
(не хлебам жа адзіным!)
і куды жыццё нас прывяло?
Што згубілі, плывучы па плыні?
Што знайшлі, спусціўшыся на дно?

Вяжам успамінаў блытаніну,
курым цыгарэты, п'ём віно
і не бачым, што не вечар сіні —
ноч густая лезе ўжо ў акно.

*

Расказала мне бабулька Ганна
не паданне — выпадак з жыцця:
— Быў калісьці ў пана за фурмана
паляшук Бацянчык Савасцян;
жвавы хлопец, да язды ахвочы,
ён на козлах мо аб'ездзіў свет.
Давялося пабываць аднойчы
Савасцяну нават у Маскве.

Як вярнуўся, збегліся суседзі,
абступілі панскага слугу:
«Раскажы, што бачыў ты на свеце».
Адказаў той:
«Бачыў я дугу.
Не дуга, скажу я вам, а — лялька!
Больш нідзе не сустракаў такіх,
фарбамі вясны размалявана,
медныя бразготкі і званкі...
Стужкамі агністымі прыбрана,
а на версе — конік залаты...»

Мужыкі пытаюць Савасцяна
пра дамы, дарогі і масты,
пра жыццё-быццё людзей, пра цэны
на пяньку, на хлеб і на свіней...

Савасцян адно вядзе нязменна:
«Ну й дуга! Каб гэткую ды мне...»
Савасцяны не перавяліся,
хоць наўкол чуваць тэхнічны гул,
хтосьці чуе, як шапоча лісце,
хтосьці бачыць зорную дугу.

*

Інтрыганы зноў плятуць інтрыгі,
разбаўляюць праўду злой маной.
І плывуць інтрыгі, нібы крыгі
па Дняпры парою веснавой:

нетаропка, велічна, паважна,
без пагроз, ды сунуцца наўпрост,
нібы незнарок, у палю плясне,
і глядзіш — хістаецца ўжо мост —
мост павагі, шчырасці, давер'я,
дабраты і шчодрасці людской,
па якім сцягі праносіць вернасць
над жыцця бурліваю ракой.

Інтрыганам вернасці не трэба,
даспадобы ім грызня, падман.
Запусціць суседу ў вока стрэмку
марыць падкалоднік-інтрыган.

І хаця жывём мы ў век прагрэсу,
атамных падлодак і ракет,
як нам не хапае ледарэзаў,
каб інтрыгі-крыгі білі ўшчэнт!

*

Пазірае месяц крутарогі
на лугі, палеткі і бары,
залаціць вандроўнікам дарогі,
закаханым сцежкі серабрыць.

А для тых, хто з нешчаслівым лёсам,
хто жыццю не рад ад звад і здрад,
сініць ён смугой рачныя плёсы,
лье ў віры нішчымніцу прынад.

*

У краіне, дзе няма галодных,
дзе правы ў руках працаўніка,
на нястачу нейкіх джынсаў модных
сорамна вам, хлопцы, наракаць.

Джынсы што? З тканіны-мешкавіны
самыя звычайныя штаны...
Нам важней, каб выраслі ў Айчыны
верныя ёй волаты-сыны.

*

Не кляніся, хлопча, не маліся
напаказ — ты ж не распусны дзяк,
што прывык лавіць людскую літасць,
як жабрак падораны пятак.

*

«Дамаганне славы — шчэ не слава»,—
гаварыў так мудры Саламон.

Непрыкметны быў, як лістам слаўся,
а прыўзняўся — стаў усім відзён.
Стаў відзён з усіх бакоў народу
і трымай адказ, як на судзе:
чым жывеш ты? Што ясі? Як робіш?
Чым рашыў парадаваць людзей?

Ад вачэй цікаўных не схаваеш
ні намераў добрых, ні благіх.
Чым вышэй пасаду, званне маеш,
тым цяжэй таіць свае грахі.

І калі ты сэрцам ненадзейны,
а душой глухі, нібы сцяна,
не ўратуе моднае адзенне
і лісліва-гнуткая спіна,—

будуць тыцкаць пальцам і смяяцца,
сарамаціць, здзекавацца, кпіць.
Сам на гэта напрасіўся, браце,
калі пяўся знакамітым быць.

Для павагі трэба мець падставу —
розум, сілу, творчай працы плён.
Дамаганне ж славы — шчэ не слава,—
гэта ведаў мудры Саламон.

*

Медуніца — сіняе з чырвоным —
на лясной палянцы зацвіла.
Сіняву прынёс ёй вецер вольны
з неба, па якім яна плыла;
чырвань, а дакладней — шчок румянец,
сонечныя промні ёй далі,
зелень лісця — ад начных туманаў,
мёд салодкі — горкі пот зямлі.

*

Пахавалі беднага паэта,
скончыўся яго цярністы шлях.
Рамачка жалобная з партрэтам
патанае ў кветках і вянках...

Блізкія, сябры стаяць гаротна
над журбою свежага капца:
у шарэнзе паэтычнай роты
стала менш на аднаго байца...

*

Паплавок ляжыць маўклівай кропкай
на вадзе, прыціхлай, нібы ў сне.
Есць карась прынаду нетаропка,
ты ж чакай, пакуль ён праглыне.

Праглыне, пацягне лёску ўдалеч
і патопіць чуйны паплавок.
Я — рыбак не дужа каб удалы,
ды змагу падсеч, зрабіць рывок.

*

Памірае на самоце ў вёсцы
дзед, што перажыў аж тры вайны.
Жонка — пяць гадоў як на пагосце,
дзесь далёка ў горадзе сыны...

Занядужаў, злёг, відаць, не ўстане...
І няма каму вады падаць...

Гэта ўзяў я не з жыцця — з раманаў,
з тых, якіх не раю вам чытаць.
Там усё — надумана, шаблонна,
дзеля моды, паказной красы.
Дзед памёр.
Ды хіба ж толькі сёння —
паміралі ўсе ва ўсе часы.

Адамкнуць у неўміручасць браму
шчэ не здолеў ні адзін манах.
Прыйдзе час — і мы памром таксама,
хто на цёплай печы, хто ў снягах.

І не ў тым бяда, што бацьку вочы
закрываюць не заўжды сыны,—
маладым наперад трэба крочыць,
будуць хай у клопатах яны!

*

Каласок на тоненькай сцяблінцы
налівае зерне спакваля;
вось ужо схіліўся нізка-нізка,
нібы просіць:
«Памажы, зямля!

Дай мне сілу выстаяць пад ветрам,
дай мне час да спеласці дажыць,
і тады я галавою светлай
упаду пад вострыя нажы».

*

Забубнue ноччу дождж у шыбы
кроплямі буйнымі, як той шрот,
і прысніцца сон знаёмы: нібы
барабаны клічуць у паход.

Прагрукоча гром каманду: «Смірна!»
Я сябе ў страі адчую зноў...
А прачнуся — дождж бубнue мірны.
Не трывож ты, дождж, прыгожых сноў!

*

У лясным зацішку ля крыніцы
чэрвеньскім бясхмарным парным днём
я сустрэў звяроў: прыйшлі напіцца
чуйная ласіха з ласянём.

Капытамі мацалі дарогу,
выбіралі, дзе яна цвярдзей,
расстаўлялі цыркулямі ногі,—
дужа слізкі быў размоклы глей.

Галавою рупная ласіха
падштурхнула сына да вады
і, пакуль ён піў, стаяла ціха,
засланяла целам ад бяды.

А пасля ўжо і сама прыпала
да струменя, чыстага як шкло.
А над лесам залатым бакалам
сонца ззяла і ў зеніт плыло.

*

Павучыну-сетку на бярозку
крыважэрны нацягнуў павук,
на абед хацеў злавіць ён мошку,
а папаў у пастку майскі жук.

Велікан у панцыры адменным
на танюткіх нітачках павіс
і, сляпы ад сонечных праменняў,
не ўтаропіць ён, дзе — верх, дзе — ніз,
і не можа вырвацца з палону
без чыесьці дапамогі, сам:
крыл ні распусціць, ні ўзяць разгону,
ні апоры цвёрдае нагам...

П'е павук яго жывыя сокі,
чыніць нетаропка свой разбой.
...Бедны жук! Хацеў лятаць высока,
а завіс між небам і зямлёй.

*

Шамаціць па травах цёплых дожджык —
нежаданы госць у час касьбы.
Развядзе ён земляныя дрожджы,
на дражджах тых вырастуць грыбы:
сыраежкі, валуі, абабкі,
рыжыкі, грузды і казлякі,
там глядзіш — карычневыя шапкі
вылузнуць з травы баравікі.

Толькі ў лес ты гэтак вось, улегцы,
бы да цешчы ў госці, не ідзі,—
пакладзі ў кашолку скібку хлеба
і шматочак сала пакладзі.
Як бы шчодра ні дарыла лета,
давядзецца добра паблукаць:
чым смачнейшы грыб — запомні гэта,—
тым цяжэй даводзіцца шукаць.

5 Зак. 420

*

Да крыніцы ходзяць не па святах —
да крыніцы ходзяць кожны дзень,
кланяюцца не багам распятым
і не мёртвай,
а жывой вадзе.

Верылі ў яе здаўна славяне,
ажывіць хацелася ім тых,
хто забіты быў рукой паганай
у баі
ці на шляхах глухіх.

Вось і я схіляюся ў паклоне
над крынічкай,
п'ю ваду [illegible] яе,—
ледзяная, ажно зубы ломіць,
ды якую сілу ў жылы лье!

*

Я не Фауст, вечна не хачу быць
маладым. Няхай імчыцца час!
Добра мне і з пасівелым чубам
і без чуба — з лысінай, як таз.

Спелы колас, дам я семя руні
і закончу свой жыццёвы шлях.
Толькі б ты была заўсёды юнай,
родная палеская зямля!

*

Пухірамі лужына булькоча —
верны знак, што дождж ідзе на спад.
Бы пустую бочку, гром пакоціць
хмару за прамоклы далягляд.

І заззяюць сонечныя промні
на расінках вастрадзюбых траў.
Вось тады і будзе грэх не ўспомніць,
як пярун у небе грукатаў;
як маланкі ў ярасці імклівай
раздзіралі хмар жалобны крэп.
Хтосьці скажа: «Пракаціўся лівень...»
Мне ж вядома: падаў з неба хлеб.

*

Вырастаў я пад крылом Айчыны,
ды дзяцінства ружай не цвіло.
Забяліць хоць трошкі боршч нішчымны
не заўсёды ў хаце чым было.
Адрывала ад сябе матуля,
толькі б накарміць нас і адзець...
Ды, бывала, шчыра так прытуліць,
на галоўкі рукі пакладзе:
«Не гнявіце бога, жыць шчэ можна —
бульба ёсць, цыбуля, талакно,
толькі ў свеце не было б трывожна,
толькі быў бы на зямлі спакой...»

Скажаце мне: прымітыў вясковы,
беднасць мар, жаданняў і патрэб?
Не! Выснова мудрасці жыццёвай
тых, хто знае, скуль бярэцца хлеб;
тых, хто сэрца не прадаў спакусам,
хто няздатны да пустых размоў,
хто паслаў на фронт сыноў бязвусых
і не прычакаўся іх дамоў;
хто душою не прымае войнаў,
бо расціць і гадаваць прывык.

...Столькі ўжо гадоў жывём
спакойна,—
не гнявi ты бога, злы язык!

*

Адплываюць дзённыя турботы,
як чаўны з травою па Дняпры,—
дзесьці там, за дальнім паваротам,
растаюць у полымі зары.
Растаюць, нібы згараюць свечкі
ці знікаюць здані-міражы...
Я зусім не думаю пра вечнасць,
мне б хаця сваё жыццё пражыць.
Мне б дабрацца толькі да крыніцы,
што блішчыць бяздонным зорным дном,—
там змагу напіцца і памыцца,
каб заснуць здаровым крэпкім сном.

*

Вечарэе. Дрэмле наваколле.
Пахне даўкай спеласцю палын.
Хлапчукі на конях едуць полем,
як героі тураўскіх былін.

Ім бы на галовы шчэ шаломы,
дзіды ў рукі, да грудзей — шчыты...
Высіцца курганам торп саломы,
цьмой арды бягуць з лагчын кусты,
і туман плыве па-над ракою,
і над лесам — сполахі зарніц...

Прэч вы, здані!
Не таптаць ніколі
нашай нівы ботам чужаніц!

*

Адцвіло, адшапацела лета,
калабком скацілася з гары.
І стаіць бярозка без берэта,
растрапалі косы ёй вятры.

Лісцявею жоўтага мяцелі
сцежкі ў гай і з гаю замялі,
без пуцёўкі к мору адляцелі
журавінным ранкам жураўлі.

Я стаю на ўзгорку і дзіўлюся:
сам, здаецца, ціха ў даль плыву,
пер'е сыплюць мне лябёдкі-гусі,
прылятае... снег на галаву.

*

Каля школы дружна піянеры
разбіваюць свой фруктовы сад.
Пройдзе час — антонаўкі і бэры
квеценню ўпрыгожаць далягляд.

Зазіраючы глыбока ў далі,
трэба сёння пазбягаць бяды,
каб у рукі брудныя не ўпалі
чыстыя і спелыя плады.

*

Ёсць такая вёска — Лістапады
між зарослых ельнікам далін:
дваццаць хат, цяністыя прысады
і замкнуты вечна магазін.

Я прыйшоў сюды, шчэ ліст не падаў
ні з бяроз, ні з клёнаў, ні з асін,
не ліняла над калгасным садам
ад дажджоў няспынных неба сінь,

не глядзелі дружна з палісадаў
катахі агністыя вяргінь,
таямніцу іншых далягляд аў
не шаптала вербам рэчкі плынь.

Але колькі чуласці, спагады
прачытаў я ў позірках жанчын!
І ад тых спагадлівых паглядаў
зразумеў: не госць я тут, а — сын.

*

То не сіла, што жыццё касіла,
наганяла жудасці і страх.
Наша сіла верай акрыліла
і адкрыла ў будучыню шлях.

Наша сіла звадна не хадзіла,
не чыніла гвалту па дварах.
Наша сіла радасцю зрабіла
працу ля станкоў і на палях.

Наша сіла вёсак не паліла,
немаўлят не вешала ў ярах.
Наша сіла ворага разбіла,
мір і шчасце — на яе сцягах.

*

Маладым сюды я ўжо ніколі
не вярнуся — праплыла вясна.
Наракаць не стану я на долю —
не была бязлітаснай яна:
правяла скрозь стынь, бяду і голад,
правяла скрозь праведнасць і грэх,
навучыла горда несці голаў
пад фанфары і сабачы брэх.

*

Ападае ціха лісце з клёнаў
на траву, на чорную раллю,—
жоўтыя гарачыя далоні
прыкрываюць стылую зямлю.

Адмахала светлай грывай вецце
і запону скінула далоў.
Снегавыя хмары кружыць вецер
над гаючай цішынёй палёў.

*

Дзень як дзень —
з марозам, ветрам, сонцам.
Родны Мінск — нястомны працаўнік,
Плямы фарбаў на тваёй спяцоўцы —
як святочнай радугі агні.

*

Не хачу я думаць, што ўжо хутка
апусцее мой любімы сад
і развесіць на галінках гнуткіх
камякі халодны снегапад.

Я не з тых запаслівых і слынных,
што бар'еры ўмеюць прабіваць,
для сябе
і крыж і дамавіну
па знаёмству могуць заказаць.

*

Праляціць жыццё дрыготкай знічкай,
упадзе — не знойдзеш у траве.
Верш мой,
як засмяглая крынічка,
у нябыт бязгучна адплыве.

Праз гады якісьці там даследчык
пыл архіўны раптам варухне,
незнарок рукой сваёй старэчай
гэтыя лісткі мае кране,—

зазвіняць яны, як струны гусляў,
што зрабіў калісьці маладым,
і я зноўку да жывых вярнуся
песняй
ці хаця б радком адным.

*

Часу бег у розных вымярэннях
адчуваць умее чалавек:
ад калыскі да труны — імгненне,
ад разлукі да спаткання — век.

*

Як абрус на кроснах маці ткала —
выпускала лебедзем чаўнок,
нітачку да ніткі падбірала,
бёрдам ёмка падбівала ўток,
каб узор старонкі нашай роднай
веснавой вясёлкаю зіхцеў,
пасаваў застольнаму настрою,
радаваў і весяліў гасцей,—
так і мы зямлі сваёй прасторы
прыбіраем квеценню садоў,
вышываем велічныя ўзоры
ніткамі чыгунак,
бальшакоў;
каб мацнела ў свеце песня міру
і садружнасць працавітых рук,
прад гасцямі
рассцілаем шчыра,
як абрус,
край любы — Беларусь.

*1980—1982*

## ДОКТАР

Наш век не здзівіш гучным званнем,—
перш-наперш чалавекам будзь.
...Вясковага ўрача сяляне
заўсёды «доктарам» завуць.

Тут — не памылка, а папраўка:
давер, пашана ў слове тым,
удзячнасць шчырая за працу,
за мудрасць строгай дабраты.

На дапамогу чалавеку
ідзе ў халаце добры друг,
дарадчык і надзейны лекар,
і акушор ён і хірург.

Сівабародыя дзяды ўсе
яго спыняюць каля брам:
— Калі, Пятровіч, маладыя
ты сэрцы перасадзіш нам?
Зірні — такое ў свеце ранне!
Шляхі-дарогі ў даль вядуць.
. . . . . . . . . . .
Вясковага ўрача сяляне
заўсёды «доктарам» завуць.

## АНІКЕЙ ГЛЯДЗІЦЬ ХАКЕЙ

Да паўночы Анікей
ля тэлеэкрана,—
любіць ён глядзець хакей
па ўсіх трох праграмах.

Сядзе, зліўшыся з тахтой,
захінецца пледам:
«Пераможа сёння хто —
«Сокал» ці «Тарпеда»?

І на ўсю катушку гук,
затыкайце вушы,
бо па хаце стук ды грук —
аж ляскочуць клюшкі.

— Каб ты спрах ужо...— бурчыць
жонка Пелагея.—
Галава мая трашчыць
ад твайго хакея.
Сівізна на галаве,
а нібы здзяцінеў...
Вунь галодныя ў хляве,—
чуеш? — стогнуць свінні...
Пакасіўся частакол...
Зарасла сядзіба...
ты ж адно равеш, як вол:
«Го-о-л!» — аж звоняць шыбы.

— Згода, згода...— Анікей
жонцы не пярэчыць
і... сядзіць, глядзіць хакей
кожны божы вечар.

## СУНКЛЕТА

Марыла Сунклета,
лёгшы на чарэнь:
«Вось надыдзе лета,
будзе доўгі дзень,—
я тады рупліва
ў хаце прыбяру,
вымыю бялізну,
посуд ператру...»

А настала лета,
рай — у вішняку;
зноў ляжыць Сунклета
на баку ў цяньку;
пазяхне лянотна,
выгнуўшы спіну:
«Вось спадзе спякота,
працаваць пачну...»

А за летам — восень,
блізка ўжо зіма.
Мыць бялізну, посуд
часу ўсё няма,—
плечы грэць Сунклета
легла на чарэнь.
— Вось надыдзе лета,
будзе доўгі дзень...

## ДЫЕТА

Выхвалялася Сунклета,
з крамы ідучы:
— Прыпісалі мне дыету
мудрыя ўрачы.

Буду я ўжываць патрошку
тлушчу і бялкоў,
стануць стройныя зноў ножкі,
маладая кроў;
пасвяжэю,
пахудзею,
бровы падвяду
і ў наступную нядзелю
танцаваць пайду...
— Нечага ж во накупляла? —
дзівяцца жанкі.
— Мяса,
масла,
сыру,
сала,
цукру
і мукі,
здобных булачак,
пячэння,
пару піражкоў,
канфіцюру,
і варэння,
крыху ледзянцоў...
— Хто ж паесць табе ўсё гэта?
Ты жывеш адна...
Усміхнулася Сунклета:
— Знішчу дацямна.
Апетыту і імпэту
Мне не пазычаць!
— А дыета?
— Праз дыету
што ж мне — галадаць?

## «ПЯЦІМІНУТКА»

У зале гасціннай
арцелі «Малютка»
ідзе больш гадзіны
«пяцімінутка».
Сам,
Нам
і Галоўны
і члены праўлення
ламаюць галовы
над важнай праблемай:
як час эканоміць
у новых умовах.

Даклад быў змястоўны,
і льюцца прамовы,—
адзін аднаго
прыгажэй і цікавей
гавораць праўленцы
аб важнасці справы,
самакрытычна
памылкі ўскрываюць,
катэгарычна
яны абяцаюць:
        дабіцца...
        узяцца...
        наладзіць...
        змагацца...
Праўленцы клянуцца,
а час не чакае:
бяжыць і бяжыць ён,
мінае,
мінае...

## ВЯСЕЛЛЕ

У Кліма вяселлем
хата гудзе:
дачка Даміцэля
замуж ідзе
за Хвошча Ігнася
з вёскі Брады.
Радні — паўкалгаса
у маладых.
Усе на вяселле
дружна прыйшлі
і дружна сядзелі,
елі-пілі.
«Го-о-орка!» крычалі
да хрыпаты,
спявалі, скакалі
да цемнаты.

...Стаіць перaспелае
жыта ў палях,
гніе парудзелае
сена ў валках...
Гуляе брыгада
пяты ўжо дзень,
і сваццproperly Агата
песню вядзе:
«А я жыта-а-а не-е-е жа-а-ала-а,
ў ба-а-аразё-ё-ёнцы ляжа-а-ала-а...»

Падцягвае песню
сам старшыня,
і ён жа, напэўна,
Кліму — радня.

# БАЙКІ БЕЗ МАРАЛІ

## ЗЯЗЮЛЯ

Зязюля на ўвесь лес
разнесла Лессабес:
— Прыстасаванцы! Малаверы!
Не бачаць праўды з-за паперы.
Ёсць восем дзетак у мяне
і ўсе жывыя,
пра гэта знаюць жыхары лясныя.
І дапамога мне належыць па закону.
А ім дай метрыкі
ды назаві імёны.
«Ты,— кажуць,— іх не гадавала...»
А хіба ж я пра іх не дбала,
калі ў чужыя гнёзды яйкі клала?

## ЗНАЁМЫ КРУМКАЧ

Казаў аднойчы Граку Шпак:
— Ты з Крумкачом знаёмы?
— Яшчэ як!
Калі на складзе ён рабіў,
я з ім дружыў...
— Нядаўна Крумкача
птушыны суд судзіў
за разбазарванне грамадскага дабра...
— Даўно пара
судзіць такога махляра!
— Ды не, мінулася бяда,
і Крумкача суд апраўдаў.
— Вядома, кадрамі такімі што ж кідацца?
Ён — галава!
Адзін каштуе дваццаць.

— Дык суд лясны зноў перагледзеў справу —
і два гады ўляпілі Крумкачу.
— Вось слаўна!
Я гэткіх прайдзісветаў-Крумкачоў
і ведаць не хачу!

## ВЯСЁЛКА І СОНЦА

Вясёлка Сонцу кінула папрок:
— Навошта промнямі ты разганяеш змрок?!.
У цемры так я засвяціла б,
што Зоркі й Месяц зацямніла б,
спрачалася б з Паўночным ззяннем.

І сонца здзейсніла яе жаданне:
за хмары светлы твар схавала.
Вясёлкі ў той жа міг не стала.

## АГРЭГАТ

Меў Кандрат свой агрэгат —
самагонны апарат.
Задрамаў ля агрэгата —
і яго згарэла хата.

## ПРОСЬБА ЛАЙДАКА

— Я прашу цябе, мой лёс,
не дражніся песнямі,
кінь мяне ў анабіёз
аж да самай пенсіі.

## СВЕТАФОР

Не заўважыў светафора,
хоць і вопытны шафёр.
І не дзіва:
нос шафёра
чырванеў, як светафор.

## ЖУЖА

Расцвітае Жужа ружай,
выбірае Жужа мужа:
каб прыгожы быў і чынны,
меў кватэру,
і машыну,

дачу,
добрую пасаду
і салідную зарплату.

Многа хлопцаў ёсць на свеце...
Многа ў Жужы на прыкмеце
працавітых
і харошых,
знакамітых
і прыгожых...

Толькі ўсе яны не дужа
каб цікавіліся Жужай.

## АРБІТА

Кампазітара Мікіту
вывеў крытык на арбіту:
знакамітым,
працавітым
у артыкуле назваў,
хоць даўно ўжо
той Мікіта
ні бемоля не пісаў.

## ДЫПЛОМ

Лепш з дыпломам
ды быць дома,
чым не дома
без дыплома.

## МІКРАФОН

Чуцен голас Саксафона
з дапамогай Мікрафона.
Сапсаваўся Мікрафон —
замаўчаў і Саксафон.

## РАМАНАЎ РАМАН

З недапісаным раманам
лез у класікі Раман.
Кажуць, і сыны Рамана
пішуць той жа ўсё раман.

## ЗЛОМУ МЕМУАРЫСТУ

Азірайся назад,
калі ласка, азірайся.
Але
    толькі болем,
    толькі злосцю,
    толькі помстай
нельга мерацъ перажытае.

## ВАДА

Не бяда, калі вада
ў моры-акіяне,
а бяда, калі вада
ў фільме
ці ў рамане.

## БЕЛЫЯ САНЕТЫ ДЛЯ ШЭРЫХ ПАЭТАЎ

### I

У нашым родзе не было паэтаў.
Ганяў плыты мой прадзед па Дняпры,
цераз парогі, дзесь аж пад Херсон,
там кавуны, казаў, ляжаць, як горы.

А дзед цяслярыў, хаты будаваў,
карміла яго вострая сякера.
І толькі бацька рамяства не ведаў,
ён прыкіпеў навечна да зямлі,

вучыў мяне араць і жыта сеяць,
аберагаў заўсёды ад спакус —
шукаць за морам хлеба дармавога

і ўжо, крый божа, скамарохам быць —
іграць на скрыпцы ці вадзіць мядзведзя...

Чаму ж я не паслухаўся яго?!.

### II

На кропельку не веру я паэту,
які ў сталіцы звіў сабе гняздо,
жыве ў раскошы, смачна есць і п'е,
а ў вершах плача па жыцці сялянскім:

«Ах, як мне цяжка без асін, бяроз!..
Я ўсё аддаў бы, каб паспаць на сене,
паслухаць пеўня спеў і рык цялушкі
ды басанож прайсціся па расе...»

Хлусня! Прытворства! Ён і ў роднай вёсцы
сярод людзей руплівых, працавітых
не знойдзе ўжо ні блізкіх, ні радні;

у пустаце — між небам і зямлёю —
не зможа напісаць радка жывога,
які б узрушыў душы чытачоў.

### III

Няшчасны той паэт, што прагне славы,
на п'едэстал дзярэцца пры жыцці,
перад люстэркам лаўравы вянок
да галавы парожняй прымярае;

не якасцю, а колькасцю радкоў
да класікаў імкнецца дацягнуцца;
не глыбінёю думак, а шматслоўем
стараецца прывабіць чытача.

Раздзьмухаўшы агонь душы пыхлівай,
сябе ўяўляць ён геніем пачне,
зазнаецца, да крытыкі аглухне.

Смакуючы свае пустыя вершы,
ён з цягам часу так прытупіць густ,
што не адрозніць мёду ад гарчыцы.

### IV

Прыціхніце, гарластыя паэты,
майстры бяздумных вершаў і паэм,
і ў цішыні падумайце пра лёс
тварэнняў вашых — дзетак-немаўлятак.

Вы спавілі іх туга ў каленкор,
далі праз меру гучныя імёны;
адно забылі — навучыць змагацца,
нагамі цвёрда па зямлі хадзіць.

Нікому не патрэбным мёртвым грузам
ляжаць яны, як муміі ў грабніцах,
на пыльных стэлажах бібліятэк.

Рамеснікі, зляпілі толькі цела,
а не змаглі ў яго душу ўдыхнуць —
вы называцца творцамі не варты!

# ПАРОДЫІ

## СОЛЬ

На Эдуарда Валасевіча

Аладак нeяк захацeў паэт,
а грошай на муку ў кішэні не хапала
(за байкі плацяць вельмі ж мала!),
ну хоць ліжы закураны загнет.
Ён да рэдактара:
— Частуй як след!
Вось непрыемны сапраўды выпадак...
Рэдактар толькі што закончыў свой абед
і кажа:
— Пацярпі, я напяку аладак.
Рэдактар аказаўся добрай гаспадыняй,
праз міг аладак рэшата нясе на стол:
— Сілкуйся, брат, а то прастынуць...
Паэт пакаштаваў і... замычаў, як вол.
(А справа ў тым, што гаспадар спяшаў
і ў цеста солі многа намяшаў.)
Гавораць, на спіне бывае перасол,
але паэт характар меў лагодны,
і выгляду ён нават не падаў,
аладку за аладкай умінаў,
бо быў, як помніце, галодны.
І, выцершы далоняй губы,
яшчэ закваскі выпіў кубак,
рэдактара абняў,
— Ну дзякуй, родненькі,— сказаў,—
я сыт. Даволі!..

Шукаеце вы ў байцы солі?
А соль усю паеў паэт.
Рэдактара ён крыўдзіць не хацеў,
каб той маралі ў байках не шукаў,
хутчэй пускаў у свет.

## ДЗЕ ПРЫТУЛЮСЯ

Зачнецца слова,
вытчацца радок
і закігіча кнігаўкай над полем...
...Куды цяпер паеду ці пайду
ад кнігаўчыны песенных разораў...

*Сяргей Панізнік*

Кігіча кнігаўкай радок
над пацямнелаю разорай.
Рачулка ёсць,
а дзе ж масток,
дзе біты шлях да ясных зораў?
Куды ж цяпер паеду і пайду,
дзе прытулюся ў прысак паркалёвы?
...Таўку да поту ў ступе я ваду,
не ведаючы,
ці зачнецца слова.

## БОЙ З САБОЙ

Кожны дзень, кожны міг,
сам з сабой
Ты вядзеш бліжні бой...

*Анатоль Шаўня*

Надакучыў мне
спакой,—
уступаю ў бой
з сабой:
сам сябе
калю, страляю,
адціскаю,
акружаю;
сам сабе
даю я перцу,
сам сабе
цаляю ў сэрца...

І не буду я
Шаўнёй,
калі скончу
гэты бой!

## СОНЕЧНАЕ СВІТАННЕ

Паволі коціцца з ракі
Світальны бубен сонца.
Выходзяць з хатаў мужыкі
І пазяхаюць сонна.
*Мікола Федзюковіч*

Разбеглася ва ўсе бакі
імгла густая,
і сонца коціцца з ракі,
як скрыпка тая.

Выходзяць з хатаў мужыкі,
на прызбу сталі,
глядзяць на сонца з-пад рукі:
— Няўжо світае?..

## НА ПОВАДЗЕ

...Бярэ на повад свёкар
цыбатае цяля.
...А нас ад слога вока
схавала азярко.
...Зацішак — ні шу-шу.
*Юрка Голуб*

Як вечар ля сядзіб
спакусамі заплешча,
бярэ на повад цешча:
— Жаніўся, дык сядзі!

І ні шу-шу, ні-ні,
хоць плач, а хоць галёкай.
Не, лепш у вір глыбокі
ад жончынай радні.

А вершы, браце, так
ці ж возьмеш ты на повад?!.
Рублёўкай пахне слова,
схапіў, ажно — пятак.

## РАЎНЕННЕ НА ПРАБАБАК

Паўз бераг сланяюся,
І скланяю,
Скланяю,
Скланяю:
Хто? — Дняпро,
Каго? — Дняпра,
Дняпру,
Дняпро
І аб Дняпры.
*Нэля Тулупава*

З надзеяй
сустрэць Дабрадзея
ступаю паўз берагі,
спрагаю:
я худзею,
ты худзееш,
ён (яна, яно) худзее
ад радасці — не ад тугі!
Прабабкі ж былі не такія —
тлусцелі яны ад бяды.

...Не клала прыправы ў радкі я,
набухала многа вады.

## ТАКІЯ ЎЖО МЫ...

Такія, пэўна, сэрцы ў нас...
...На тое ж у нас галовы на плячах...
*Кастусь Цвірка*

Дзярэмся-пнемся на Парнас.
за хвост
Пегаса ловім...
Такія, мусіць, сэрцы ў нас,
а правільней —
галовы.

## ВОСЬ ДЫК МАЛАДЗІЦА!

Дарога маладзіцаю
Нас павяла ў раён...
...І — паненкаю мястэчка
Ў тэлефонных правадах!..
...Ты між сосен, як між цётак —
Незамужніх маладзіц.
*Васіль Макарэвіч*

Хто з кім хоча парадніцца —
раскумекай-адгадай!
Вунь дарога-маладзіца
уцякае ў цёмны гай:

— Надакучылі парадкам
мне залёты-гарады.
Абдымайце, клёны, грабы —
нежанатыя дзяды!

І няхай разносяць плёткі
правады ва ўсе канцы,—
як за пазухай у цёткі,
мне між вамі, выдаўцы!

## РОДНАСЦЬ

> Любіў ён люльку
> І табакерку,
> Зіму-бабульку,
> Вясну-швагерку,
> Восень-залоўку
> І лета-свата...
>
> *Сцяпан Гаўрусёў*

Гушчэчай лесу
пру нацянькі,
куды ні ўлезу —
там сваякі:
мне куст ядлоўцу —
стрыечны брат,
вярба — залоўка,
а явар — сват,
бабулька — вольха,
дзядуля — бук,
кума — чаромха,
агрэст — унук,
каштан — айчым
і швагер — клён...

А ім усім
я — кампаньён.

## ЗМЕСТ

### ЯК МАТЧЫНЫМ РУКАМ І ХЛЕБУ...

**Жычка Хв.**
**Ж 68 Абрус: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 95, с. іл.**

40 к.

Зборнік склалі вершы аб нашай Радзіме, аб прыгажосці душы савецкага чалавека. Значнае месца займае ў кнізе лірычны дзённік «Абрус» — роздум пра час і сябе, пра абавязак паэта перад народам. Ёсць тут і сатырычныя вершы, гумарэскі, эпіграмы і пароды.

Ж $\frac{4702120200-004}{М\ 302(05)-85}$ 57—85

ББК 84Бел7
Бел2

*Федор Дмитриевич Жичко*

СКАТЕРТЬ
Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак А. І. Цароў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Т. Ю. Гузава.

ІБ № 1969
Здадзена ў набор 17.05.84. Падп. да друку 11.10.84. АТ 0068[illegible] Фармат 75×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высо[illegible] друк. Ум. друк. арк. 3,75. Ум. фарб.-адб. 4,14. Ул.-выд. ар[illegible] 4,01. Тыраж 1500 экз. Зак. 420. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БСС[illegible] па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 22060[illegible] Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіна[illegible] МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

